Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

Выдаецца са снежня 1994 года

37 (545) 16 верасня 2010 года

Кошт **свабодны**

СКУТЭРЫ
ГАРАНТЫЯ НА ЎСЮ ТЭХНІКУ
КРЭДЫТ
МАПЕДЫ
МОТАКОСЫ
БЕНЗАПІЛЫ
РУХАВІКІ ДА МОТАБЛОКАЎ
ГЕНЕРАТАРЫ ад 0,8 да 5,5 квт
ЛОДАЧНЫЯ МАТОРЫ
ЗАПЧАСТКІ
і шмат іншага
ПП «Хорс Мотарс», УНП 190849085; Ліц. 50000539993 да 12.03.2014 г. МГВК
на рынку «Верас»
Затэлефануй: 8(033) 320-82-02

ІП Гузак Ч.І., УНП 391240256
ДЗВЕРЫ
Пастаўскі вытворчы мэблевы цэнтр
Вялікі выбар. Нарэзка шкла. Дастаўка – бясплатна.
Тэрмін выканання для афарбаваных дзвярэй – 3-4 тыдні.
Тэл.: 8 (02154) 4-38-94 (гп Шаркаўшчына); vel: 8 (029) 968-49-17

Ювелірны магазін «Облік»
на вул. Кірава, 30/2
тэл/факс.: 2-70-62
Выйграй адзін з 56 тэлевізараў,
купіўшы ў нашым магазіне ювелірны выраб завода «Зорка».
ІП Сцежкін С.В, УНП 390289159
Ліц. №02200/0064387 ад 22.07.06, выд. МінФін РБ



Фэст у Параф'янаве.
*Працяг тэмы на стар. 4.*

## Выбары прызначаныя на Міколу

**Прэзідэнцкія выбары адбудуцца 19 снежня 2010 года. Адпаведную пастанову прыняла 14 верасня палата прадстаўнікоў нацыянальнага сходу на сваёй нечарговай сесіі.**

За прагаласавалі аднагалосна ўсе 108 прысутных дэпутатаў.

Пытанне аб разглядзе даты выбараў было ўнесенае ў парадак дня пасяджэння сесіі ніжняй палаты парламента саветам рэспублікі за некалькі хвілін да пачатку пленарнага пасяджэння.

Цікавае супадзенне — 19 снежня святкуюць дзень Святога Міколы зімовага.

Сярод іншых святочных датаў варта адзначыць Дзень супрацоўніка дзяржаўнай бяспекі, які сёлета будзе адзначацца акурат пасля выбараў – 20 снежня. Мінулыя выбары таксама адбыліся ў 19-ы дзень месяца, адно што ў сакавіку. А прызначаныя былі за тры месяцы да даты правядзення — 16 снежня 2005 года. Сёлета сцэнар паўтарыўся да драбніцаў.

ІП Вальнчук В.А., УНП № 500594599
КУХНІ
Кухонныя вугалкі, мяккая мэбля
ЗАМЕР. ДАСТАЎКА. УСТАЛЯВАННЕ
Тэлефон: (029) 697-22-18
па Вашых памерах
Ліц. №42365/0296288, выд. 18.12.2006 г.

Блокі г/с – 195000 м$^3$
Клей для г/с блокаў,
Душавыя кабіны,
Газавыя катлы,
Ламінат (Германія),
Самарэзы, дзюбелі, цвікі, свёрлы і іншы інструмент.
Знойдзеце танней? Мы прададзём яшчэ танней!
тэл.: 8 (033) 307 37 30; 8 (029) 299 01 00
Пасв. №391054528, выд. 01.02.2010 г., выд. Глыбоцкім РВК
ПГУП ПЛГ «Будматэрыял» УНП 391054528

ІП Каваленка Д.В. УНП 391294513
Нацяжныя паталкі
ALTEZA
** Францыя, Расія Украіна, Швейцарыя
** Растэрміноўка плацяжу
** Гарантыя
** Наяўны і безнаяўны разлік
** Фотадрук фантазій
Вадкія шпалеры
** Шматузроўневыя паталкі
НАДАКУЧЫЛІ КРЫВЫЯ ПАТАЛКІ?? Звані
8 (029) 370-88-10; 8 (033) 329-29-99

ТАА "ОКНОГРАД", УНП 690639306
ВОКНЫ, балконныя рамы, ДЗВЕРЫ ПВХ (профіль LG)
Уласная вытворчасць:
замер, мантаж, дастаўка, выраб – 3-5 дзён.
Гарантыйнае абслугоўванне.
Прадукцыя сертыфікаваная.
Пасв. №690639306, выд. Мінскім АВК
Тэл.: 813-63-66 (мтс); 326-30-12 (velcom)

Отделочные и строительные материалы
котлы, двери, окна, душевые кабины, пластик, ламинат и др.
ЧТУП "СолидСтрой" УНП 390506108
магазин "Бегемот" на Леніна, 87
Ліц. №22150/0283624 выд. Глыбоцкім РВК

ЧТУП «ОД Стройс»
УНП 390506774
Вокны і дзверы ПВХ
шафы-купэ, жалюзі, сейфы
дзверы металічныя,
дзверы міжпакаёвыя
тэл.: 2-65-66
на Дзяржынскага, 29-А
Ліц. №22150/0283014, выд. 07.04.04 г. Глыбоцкім РВК

КУХНІ, ШАФЫ-КУПЭ
па індывідуальных праектах
замер, дастаўка, усталяванне
без % растэрміноўка
Тэл.: 8 (029) 885-82-97 мтс
ІП Лісіца В.В. УНП 59022359 Ліц. 42360/0384985 ад 14.07.2008 г.

АЎТАЗАПЧАСТКІ
для аўтобусаў і легкавых аўтамабіляў
тэл.: 8 (029) 712-93-34
ЧТУП "СолидСтрой" УНП 390506108
магазін "Бегемот" на Леніна, 87
Ліц. №22150/0283624 выд. Глыбоцкім РВК

Ваши ОКНА плюс
Шафы-купэ
Вокны ПВХ
Дзверы ПВХ, металічныя і міжпакаёвыя
найноўшыя энергазберагаючыя, 70 мм, 5-камерныя, супраціў цеплаперадачы = 1 М$^2$ С$^0$ (Вт). Па кошту стандартных.
Тавары ў крэдыт
Выбірай для сябе лепшае!
Балконныя рамы
Вароты секцыйныя
Ралеты, сейфы
Жалюзі: вертыкальныя і гарызантальныя
Карнізы аконныя
Камп'ютэрныя сталы
Ліц. № 22150/0283431 ад 06.06.2008 г., выд. Глыбоцкім РВК
на Леніна, 14/1; тэл.: 2-22-77; мтс: 308-42-00
на Маскоўскай, 17; тэл.: 2-21-28
ЛІНОЛЕУМ ПАНЕЛІ ПВХ САЙДЫНГ
ДЫВАНОВЫЯ ПАКРЫЦЦІ
ЛАМІНАВАНЫЯ ПАДЛОГІ
ІП Сініца С.К.; УНП №390144631;
УНП 391052313 ПГУП "ЛерВарСтройПлюс"

ПГУП "Аляхновіч і К$^0$" УНП 390506164
УСЁ ДЛЯ ДАХАЎ
металадахоўка, катэпал, праф/ліст, водасцёкавыя сістэмы
затэлефануй: 2-69-49; 612-45-50; 718-00-59
на Маскоўскай, 79
Ліц. №22150/100218, выд. 31.05.04 Глыбоцкім РВК

Генподрядная строительная организация приглашает на **постоянную** работу
УНП 690777837 ООО «СПК стройинвест», г. Минск
КАМЕНЩИКОВ, ШТУКАТУРОВ, ПЛИТОЧНИКОВ, ПЛОТНИКОВ-БЕТОНЩИКОВ, ЭЛЕКТРОМОНТАЖНИКОВ, АРМАТУРЩИКОВ
Заработная плата от 1,5 млн. руб.
Объект: жилой дом в г. Глубокое
Контрактная форма найма. Полный социальный пакет. Обеспечение жильём.
Контактное лицо: Владимир Егорович, тел.: 8(029) 619-51-11

ARTEC оконные системы
www.arteconline.com
Широкая сеть региональных представительств
ОКНА, ДВЕРИ, РАЗДВИЖНЫЕ БАЛКОННЫЕ РАМЫ
VEL: 8 (029) 372 43 04;
МТС: 8 (029) 571 91 76
УНП 690639306, ООО "Окнаград", 27.02.2008 г., Миноблисполком

БЛОКІ, ВАПНА, ЦЭГЛА, ЦЭМЕНТ
Усё для будаўніцтва і аддзелкі!
у Глыбокім на Маскоўскай, 79
Тэл.: 2-69-49; 2-72-42; 8(029) 218-47-60(м); 8(044) 331-21-12(в)
ПГУП "Аляхновіч і К$^0$" УНП 390506164
Ліц. № 22150/100218, выд. 31.05.04, Глыбоцкім РВК

# Ñòà¢êà ðýô³íàíñàâàííÿ íàöáàíêà çí³æàåööà äà 10,5%

■ Сяргей Пульша, *БелаПАН*

**Стаўка рэфінансавання Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь зніжаецца на 0,5 працэнтнага пункта і з 15 верасня 2010 года складзе 10,5% гадавых.**

Як паведамляе прэс-служба Нацбанка, такое рашэнне прынята з улікам устойлівай станоўчай дынамікі асноўных макраэканамічных паказчыкаў і адносна нізкага ўзроўню інфляцыі ў краіне.

У прэс-службе адзначаюць, што зніжэнне стаўкі рэфінансавання скіравана найперш на далейшае патанненне банкаўскіх крэдытаў для насельніцтва і суб'ектаў гаспадарання. "Пры гэтым досыць высокі ўзровень рэальных значэнняў працэнтных ставак па дэпазітах насельніцтва ў беларускіх рублях дазволіць надзейна абараніць зберажэнні грамадзян ад інфляцыі і захаваць значнае перавышэнне даходнасці рублёвых укладаў у параўнанні з дэпазітамі ў замежнай валюце", — гаворыцца ў паведамленні Нацбанка.

У апошні раз стаўка рэфінансавання была зніжана 18 жніўня таксама на 0,5 працэнтнага пункта — да 11% гадавых. Такім чынам, з пачатку года стаўка рэфінансавання зніжаецца ў шосты раз (у лютым, красавіку, маі, ліпені, жніўні, верасні). У пачатку года яна складала 13,5%.

# Ó Íàâàïîëàöêó ³ Ïîëàöêó ïàáóäóþöü ýíåðãàýôåêòû¢íûÿ äàìû

■ Марына Паўлава

**Па дадзеных камітэта па архітэктуры і будаўніцтве Віцебскага аблвыканкама, яны будуць здадзены ў эксплуатацыю ў гэтым і наступным годзе.**

Як паведаміў карэспандэнту БЕЛТА старшыня камітэта Уладзімір Сівец, два дамы з'явяцца ў Наваполацку, яшчэ па адным у Оршы і Віцебску. Варта адзначыць, што ў абласным цэнтры гэта будзе другі энергаэфектыўны дом. Першы быў здадзены ў эксплуатацыю ў сакавіку бягучага года і ўжо абжываецца навасельцамі мікрараёна Медцэнтр.

Праект новых дамоў распрацаваны інстытутам "Віцебскграмадзянпраект" і прадугледжвае павышаную цеплаізаляцыю сцен, адмысловую сістэму вентыляцыі з рэкуперацыяй цяпла сыходзячага паветра і ін шыя інавацыйныя элементы, якія дазваляюць зменшыць узровень спажывання цеплавой энергіі на 20-40% у параўнанні са звычайнымі дамамі і зменшыць плацяжы жыхароў па аплаце спажываемай цепла-энергіі.

У Віцебскай вобласці сярэдні кошт аднаго квадратнага метра ў энергаэфектыўным доме складае Br2,7 млн. пры сярэднім кошце ў звычайных дамах каля Br2 млн. Разам з тым пры запланаваным зніжэнні энергаспажывання на ацяпленне акупляльнасць выдаткаў складзе каля 6,5 гадоў. А пры ўзрастанні кошту энергарэсурсаў тэрмін акупляльнасці скароціцца,-- сцвярджаюць спецыялісты.

Будаўніцтва падобнага дому пачата таксама ў Полацку, адным энергаэфектыўным домам больш стане і ў абласным цэнтры. Плануецца, што яны будуць здадзены ў эксплуатацыю ў наступным годзе.

**Áðàñëà¢ñê³ ðà¸í**

# Ïàìàëàäçåëà ñòàðàÿ øêîëà

■ Чэслаў Якубовіч

**У новым навучальным годзе на Віцебшчыне з-за адсутнасці вучняў прыйшлося закрыць 16 школ, а ўрачыста адкрылася толькі адна новая ў абласным цэнтры.**

Праўда, у Браслаўскім раёне 1 верасня адзначыла сваё другое нараджэнне Відзаўская СШ, пабудаваная яшчэ ў даваенны час пры польскіх уладах. Яшчэ летась яе стары двухпавярховы будынак ацяпляўся некалькімі дзясяткамі печак і ўжо не адпавядаў патрабаванням часу і саннормам. На працягу двух гадоў, не спыняючы навучальны працэс, тут па чарзе праводзілі капітальны рамонт класаў з іх рэканструкцыяй. Фактычна ад старой пабудовы засталіся толькі сцены, а ўсё астатняе, пачынаючы з пластыкавых вокнаў, цяпер новае і прыгожае. На вяртанне школы да нармальнага жыцця пайшло 2,3 мільярды рублёў. Аднак такія затраты апраўданыя, бо толькі першакласнікаў прыйшло 30 хлопчыкаў і дзяўчынак, а ўсяго ў школе займаецца больш за 340 навучэнцаў. У будучым таксама ёсць каго вучыць, і таму Відзаўская СШ будзе і далей развівацца. З новага года пры ёй пачнецца ўзвядзенне прыбудовы з актавай і спартыўнай заламі і вучэбным комплексам для вучняў пачатковых класаў. Таксама ў азёрным краі адкрыўся дзіцячы садок пры школе ў аграгарадку Войненцы, была капітальна адрамантавана Дрысвяцкая СШ.

**Ïîëàöê³ ðà¸í**

# Íå êàïàé äðóãîìó ÿìó

■ Станіслаў Раманчук

**У наш час норавы "разборак" паміж людзьмі сталі набываць дзікунскі характар.**

Вось і ў Полацку нехта з нядобразычліўцаў па нявысветленай прычыне вырашыў адпомсціць аднаму з прадпрымальнікаў, але не сам, а з дапамогай памочніка з Оршы. Апошні з іх наняў за грошы на "мокрую" справу (патрабавалася моцна збіць і нават зламаць бізнесмену руку альбо нагу) яшчэ двух сваіх знаёмых. Але на іх бяду выйшаў з гэтага поўны канфуз. Спачатку перашкодзілі здзейсніць расправу непажаданыя сведкі. Пасля некалькіх тыдняў зацішша "кілеры" вырашылі расправіцца з клієнтам вечарам, калі ён забіраў дзіця з садка. Аднак прадпрымальнік угледзеў слежку за сабой і прыняў меры перасцярогі, папрасіўшы на падмогу сябра з машынай. У момант нападзення палачанін не разгубіўся, прымяніў газавы пісталет і затрымаў аднаго з мярзотнікаў, 1985 года нараджэння. Яго здалі ў міліцыю, а потым былі затрыманы яшчэ двое зламыснікаў. Па прыгавору суда яны атрымалі за свой ганебны ўчынак па 5-5,3 гады калоніі. Цяпер міліцыяй працягваецца вышук арганізатара двайнога нападзення на прадпрымальніка.

**Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í**

# Ç êîðòà ¢ áàñåéí

■ Кастусь Александровіч

**Ужо працяглы час па аб'ёмах платных азараўленчых паслуг для насельніцтва Пастаўскі раён апярэджвае ўсе астатнія раёны вобласці разам узятыя.**

Яшчэ ў пачатку нова-га стагоддзя тут стварылі належную базу, якая бесперапынна развіваецца і ўдасканальваецца. Побач з гарадскім стадыёнам запрацаваў тады фізкультурна-аздараўленчы комплекс, у двух буйных жылых мікрараёнах горада - яшчэ адзінФАК і аздараўленчы цэнтр "Юнацтва" для моладзі. Сёлетнім летам на гарстадыёне запрацаваў тэнісны корт з металічнай агароджай, каб не прыходзілася далёка бегаць за мячамі. За адну гадзіну заняткаў тут трэба заплаціць 10 тысяч рублёў, і жадаючых падтрымаць сваю фізічную форму хапае, з'явіліся пастаянныя наведвальнікі Такі ж корт будзе ўсталяваны і ў мікрараёне былога 6-га ваеннага гарадка. У канцы верасня ў райцэнтры адкрыецца і доўгачаканы вялікі гарадскі плавальны басейн, а міні-басейн на ФАКу працаваў ужо даўно. З задавальненнем наведваюць пастаўчане турэцкую лазню, фінскую саўну і рускую парылку, шмат ёсць жадаючых займацца ў двух трэнажорных залах з сучасным абсталяваннем. У новым басейне для жанчын будзе працаваць таксама секцыя аквааэробікі. Зімой змогуць тут паплаваць і школьнікі, і ўсе жадаючыя, бо плаванне карысна для здароўя ў любую пару года.

**Íàäâîð'å ¢ Ãëûáîê³ì** www.rp5.ru

| | чацвер 16.09.10 | | | | пятн. 17.09.10 | | | | сб. 18.09.10 | | | | нядз. 19.09.10 | | | | 20.09.10 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | +10 | +11 | +19 | +15 | +10 | +10 | +17 | +12 | +8 | +10 | +16 | +11 | +7 | +9 | +14 | +12 | +8 | +9 | +15 |
| Ціск, мм | 742 | 742 | 740 | 739 | 740 | 742 | 742 | 742 | 742 | 742 | 741 | 742 | 742 | 743 | 745 | 746 | 747 | 747 | 748 |
| Вільготнасць, % | 100 | 100 | 53 | 83 | 95 | 89 | 53 | 72 | 93 | 90 | 59 | 78 | 90 | 87 | 67 | 74 | 87 | 88 | 55 |
| Вецер м/сек | З 3 | Ю-З 4 | Ю 3 | Ю 4 | Ю-З 5 | Ю-З 5 | Ю-З 5 | Ю-З 5 | Ю-З 4 | Ю-З 5 | Ю-З 6 | Ю-З 6 | Ю-З 6 | Ю-З 6 | Ю-З 6 | Ю-З 5 | Ю-З 2 | Ю-З 1 | Ю 2 |




## Äçåíü çà äí¸ì

**І ў гэтым годзе нашай краіне не ўдаецца пераламіць непрыемную тэндэнцыю. Адмоўнае сальда замежнага гандлю Беларусі таварамі і паслугамі сёлета склала за студзень-ліпень 4,2 млрд. USD, найбольш праблем у знешнім гандлі з Расіяй. Як і раней, колькасць насельніцтва краіны працягвала змяншацца і за першых 7 месяцаў года яна скарацілася яшчэ на 12,5 тысяч чалавек, беларусаў ужо меней за 9,5 мільёнаў. З надыходам восені павысілі зарплату асобным катэгорыям беларускіх бюджэтнікаў, чарговае павышэнне заробкаў у гэтай сферы чакаецца з 1 лістапада, стаўка 1-га разрада можа ўзрасці з 90 да 180 тысяч рублёў.**

# Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**Кітай.** Па выніках II кварталаў года ВУП краіны вырас, дасягнуў 1,34 трлн. $ і абагнаў Японію з паказчыкам 1,29 трлн. $, кітайская эканоміка стала другой па сіле ў свеце.

**Таджыкістан.** Кіраўнік краіны Э Рахмон заклікаў суайчыннікаў запасціся прадуктамі харчавання на 2 гады з-за росту цэн на збожжа. Краіне штогод трэба 0,5 млн. т зерня купляць.

**Ісландыя.** Паміж краінай і ЕС пачаў разгарацца канфлікт. Ісландцы не згаджаюцца, што ловяць рыбы болей, чым можна па нормах Еўрасаюза, куды падалі заяўку аб прыёме.

**Пакістан.** З-за пагрозы новага наваднення пасля прарыву дамбы ра рацэ Інд прыйшлося эвакуяваць яшчэ 0,5 млн. жыхароў краіны, дзе ад стыхіі пакутуюць 20 млн. чалавек.

**Расія.** На фоне засухі Федэральная антыманапольная служба правяла масавыя праверкі спекулятыўнага росту цэн на хлеб, муку, малако і іншыя сацыяльна значныя прадукты.

**Люксембург.** Адна з самых малых краін свету выйшла на 1-е месца ў ЕС па ўзроўню мінімальнай зарплаты – 1687 EUR у месяц, падобны заробак беларусаў у 25 разоў меншы.

**Германія.** Апазіцыя стала рэзка крытыкаваць рашэнне канцлера і ўрада ФРГ прадоўжыць тэрміны эксплуатацыі рэактараў нямецкіх атамных станцый АЭС яшчэ на 10-15 гадоў.

**Афганістан.** У адной з самых бедных краін свету пачалі здабычу нафты ў аб'ёме да 800 барэляў штодзень, запасы на поўначы ацэньваюцца ў 1,8 млрд барэляў "чорнага золата".

**Ірак.** Аб завяршэнні баявой місіі тут заявіў прэзідэнт ЗША Б. Абама. Для навучання і падрыхтоўкі мясцовай арміі засталіся каля 50 тысяч амерыканскіх ваеннаслужачых.

**Польшча.** Пасля моцнай спёкі і лІўняў у горных раёнах краіны і суседняй Чэхіі нечакана так рана выпаў першы снег, тэмпература паветра апусцілася да нуля градусаў.

**Японія.** Вучоныя краіны распрацавалі першае ў свеце інавацыйнае піва без браджэння і без ніводнай калорыі, напой мае колер, смак і пах, як і сапраўдны пеністы напой.

**Расія.** На працягу 3-х гадзін баевікі-ісламісты атакавалі радавое сяло прэзідэнта Чачні Р. Кадырава, забілі там 6 і паранілі 18 міліцыянераў. На Каўказе далёка да стабільнасці.

**Літва.** Пасля адсідкі ў беларускім СІЗА вярнуўся ў Вільнюс камандзір коннай паліцыі Л. Банкаўскас, у яго машыне знайшлі быццам бы падкінутыя наркотыкі.

**Туркменія.** У Кнігу рэкордаў Гінэса ўнеслі самы вялікі ў свеце комплекс з 27 прыгожых фантанаў плошчай 15 гектараў ля міжнароднага аэрапорта ў Ашхабадзе.

**Індыя.** З нагоды 100-годдзя лаўрэата Нобелеўскай прэміі міру Маці Тэрэзы па ўсёй краіне на працягу паўгода будзе хадзіць спецпоезд з экспазіцыяй аб яе жыцці і дзейнасці.

# Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Мінск.** У новым навучальны годзе ў школы РБ прыйшлі на працу больш за5 тысяч маладых настаўнікаў, але там працавалі і 8 тысяч педагогаў пенсійнага ўзросту.

**Гомель.** Да канца года завершыцца акцыяніраванне РУП "Гомельтранснафта "Дружба", прадпрыемства стане акцыянерным таварыствам са 100-працэнтным капіталам дзяржавы.

**Бараўляны.** Самы вядомы хлопчык краіны 6-гадовы Коля Лукашэнка не пайшоў вучыцца ў адкрытую тут супершколу коштам 45 млрд. рублёў, у 1-ы клас ён пойдзе праз год.

**Салігорск.** Як заявіў А. Лукашэнка, толькі выходзячы з цаны звыш 30 млрд. $, можна разглядаць прапановы аб прыватызацыі калійнага камбіната, бо на яго ўжо шмат інвестараў.

**Мінск.** Услед за антырасійскай прапагандай у СМІ адбыўся інцыдэнт ля пасольства РФ, дзе вечарам два хуліганы кінулі бутэльку з гаручай сумессю, пашкодзілі джып і іншамарку.

**Пухавічы.** За падпал электрычкі суд адправіў у калонію на 3,5 гады двух 19-гадовых хлопцаў-хуліганаў, ім трэба пакрыць і шкоду беларускай чыгунцы - 60 млн. рублёў.

**Мінск.** Пасля прыняцця Дырэктывы № 4, як паведаміў намеснік міністра эканомікі А. Тур, у Беларусі ІП дазволяць браць на працу наёмных супрацоўнікаў, спросцяць падаткі.

**Зельва.** Жыхароў райцэнтра парадавала падпісанне пагаднення з фірмай "Кульчык Холдынг" аб узвядзенні вугальнай электрастанцыі 920 МВт. Кошт праекта каля 2 млрд. $.

**Мінск.** Сакратарыят ТБМ прыняў заяву аб неабходнасці распрацаваць і прыняць у бліжэйшы час у Беларусі Закон аб абароне і дзяржпадтрымцы беларускай мовы.

**Чавусы.** Некалькі дзён у вёсцы Селішча шукалі цела 17-гадовага хлопца з Магілёва, жывым пахавана на дачы пры будаўніцтве калодзежа на глыбіні 10 метраў.

**Мінск.** Айчынная сетка карыстальнікаў інтэрнета вырасла за 7 месяцаў года яшчэ на 130 тысяч чалавек, усяго ёй карыстаюцца цяпер 3,16 млн. жыхароў Беларусі.

**Гродна.** За вялікі ўклад у ахову прыроды ўпершыню на прайшоўшым у горадзе VIII Рэспубліканскім экалагічнымі форуме ўручалі нагрудныя знакі "Ганаровы эколаг РБ".

**Мінск.** Кіраўніцтва Беларусі ў другі раз адмовіла ўладам Кыргызстана ў экстрадыцыі на радзіму Курманбека Бакіева. Такі крок Генпракуратура РБ адмаўляецца каменціраваць.

**Брэст.** У разгар сезона адлічылі са скандалам з каманды "Дынама" яе вядучага футбаліста Рамана Васілюка, які не пагадзіўся на зніжэнне сваёй зарплаты – 10 тысяч $ у месяц.

**Мінск.** Тэрмін следства па гучнай справе ст. следчага па асабліва важных справах Генпракуратуры РБ С. Байковай прадоўжылі да 9 кастрычніка, яна пад хатнім арыштам.

# Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

**Віцебск.** З пачатку года закупкі малака ад прысядзібных гаспадарак насельніцтва вобласці зменшыліся яшчэ на 18,6 %, мяса за гэты перыяд закуплена менеей, чым летась на 2,9 %.

**Дуброўна.** На палях раёна сёлета вырасцілі каля 10 тысяч тон льнотрасты (уся вобласць разам 60 тыс. т), на лепшых участках – да 6 тон з гектара.

**Наваполацк.** Толькі зараз НПЗ "Нафтан" стаў на ногі, у суткі сталі перапрацоўваць да 6 -6,5 тыс. тон венесуэльскай і расійскай нафты "Уралс".

**Віцебск.** У гаспадарках вобласці не хапае 209 спецыялістаў, з іх толькі 60 % з вышэйшай адукацыяй, аднак замахнуліся да 2015 года атрымаць у рэгіёне 2,5 мільёны тон збожжа.

**Полацк.** На працягу двух дзён у райцэнтры і ў раёне праходзілі вялікія ўрачыстасці з нагоды100 -годдя з нараджэння знакамітага беларускага мастака Івана Хруцкага.

**Орша.** Будаўнікі БУ-38 віцебскага будтрэста № 9 атрымалі заданне да зімы ўзвесці сцены вышынёй 30 метраў, дах, падлогу Лядовага палаца, яго здача намечана на канец 2011 года.

**Наваполацк.** На працягу цэлых 5 дзён адзначаўся Дзень горада з удзелам дэлегацый горадоў-пабрацімаў, быў адкрыты цэнтр інфармацыйных тэхналогій IT акадэмія "НОТА".

**Віцебск.** Больш за7,5 тысяч дзяцей з самых бедных сем'яў вобласці атрымалі падтрымку для збору ў школу на суму 1 млрд. рублёў з розных крыніц фінансавання і з бюджэту.

**Лёзна.** Пры пасрэдніцтве адной з праграм ААН у раёне на плошчы больш за700 га аднавілі два разбураных балоты, ход гэтых работ знялі на відэа журналісты "Нямецкай хвалі".

**Віцебск.** Фірма "Марко" вырашыла ахапіць сваім фірменным гандлем усе гарады Беларусі з насельніцтвам больш за 20 тысяч чалавек, цяпер яна мае 28 сваіх фірменных магазінаў.

**Паставы.** Адразу трое маладых людзей прыйшлося змясціць на лячэнне ў райбальніцу пасля вылету іншамаркі ў кювет і яе перакульвання вечарам на дарозе ля гарпасёлка Варапаева.

**Докшыцы.** У лясах Бярэзінскага запаведніка з-за пацяплення клімату адшукаўся ўнікальны від павука-асы, гібрыд з двух насякомых. Людзей ён не кусае, атакуе саранчу.

**Орша.** У рамках тыдня роднай мовы "Не пакідайце мовы беларускай, каб не ўмёрлі!" у горадзе адкрылі выстаў "Я прыйшоў дзеля Вас" з удзелам сына Я. Коласа Міхася.

**Расоны.** Упершыню за апошнія 8 гадоў у гарпасёлку здалі новы пяціпавярховы жылы дом, да абласных Дажынак здадуць тут і ФАК з басейнам, які замарозілі яшчэ ў БССР.

**Талачын.** Мясцовы фотаамататар Д. Іўчанка заняў 3-е месца ў Рэспубліканскім фотаконкурсе "Гэта твая зямля", прысвечаным 50-годдзю службы аховы прыроды РБ.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Лічба нумара

**70 млрд. рублёў** – столькі дадатковых сродкаў штомесяц, па дадзеных Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Беларусі, патрэбна патрацідь з дзяржбюджэту краіны толькі на павышэнне з верасня зарплаты асобным катэгорыям работнікаў бюджэтнай сферы. Гэта адразу павялічыла айчынны бюджэтны дэфіцыт. Але паколькі стаіць задача "кровь из носа" дасягнуць абяцаную зарплату 500 $, няма сумнення, што яе выканаюць, аб чым адрапартуюць у канцы года ў разгар перадвыбарнай кампаніі.

Наш электарат, які ў большасці сваёй далёкі ад эканамічных рэалій, гэтаму, канешне, парадуецца, калі, праўда, не будзе шакіраваны неўзабаве паскораным ростам цэн на тавары і паслугі. Дасведчаныя эканамісты і спецыялісты толькі пацiскаюць плячыма, чаму ў нас ігнаруюць законы эканомікі, напампоўваюць іх пустымі грашыма, не падмацоўваючы іх адпаведным ростам прадукцыйнасці працы. Прычым ва ўрадзе замахнуліся яшчэ далей і прапанавалі з 1-га лістапада павысіць тарыфную стаўку першага разраду нават у 2 (?!) разы – з цяперашніх 90 тысяч да 180 тыс. рублёў.

Сапраўды, на што толькі не пойдзеш, каб зноў перайсці на новы палітычны тэрмін без асаблівых для эліты ўзрушэнняў. Між тым не забылася, як на найвышэйшым ўзроўні канстатаваліся правальныя вынікі работы эканомікі Беларусі за першыя 7 месяцаў года. Непрададзеныя аб'ёмы гатовай прадукцыі па-ранейшаму гіганцкія, 6 трлн. рублёў – гэта вам не жартачкі. Як і раней, сальда замежнага гандлю айчыннымі таварамі і паслугам ў значным мінусе на амаль 3 млрд. долараў за паўгода.

Наша краіна ўсё больш жыве ў доўг, каб падтрымаць курс беларускага рубля і свае залатавалютныя рэзервы. Вось толькі такімі актывамі ( 5,3 млрд. $ ) цяпер можна пакрыць неабходны Беларусі жыццёва важны імпарт толькі на працягу 50 дзён. Аднак такіх запасаў неабходна мець для пакрыцця імпарту на працягу трох месяцаў. Таму і пайшлі на размяшчэнне еўрааблігацый на 1 млрд. долараў пад высокія працэнтныя стаўкі.

Краіна свядома ідзе на далейшае павышэнне знешняга доўгу. Па-ранейшаму марудна, пераадольваючы супраціўленне бюракратыі, зацягваюць мадэрнізацыю і лібералізацыю эканомікі, больш на словах гавораць аб яе рэфармаванні. Як вынік, сёлета ўжо узнік недахоп дзяржаўных сродкаў у памеры 6,6 трлн. рублёў на фоне таго, што толькі ў 1-м паўгоддзі на заробкі бюджэтнікам з дзяржбюджэту патрацілі болей за 2 трыльёны рублёў, за 22 % болей за леташні ўзровень.

Цяпер да канца года толькі на гэта павышэнне неабходна недзе знайсці яшчэ 280 млрд. рублёў на выплаты зарплат, расходы павялічацца яшчэ на 20 %. А гэта не канчатковае павышэнне зарплат, калі няма і дадатковых крыніц папаўнення дзяржбюджэту, чые даходы за 1-е паўгоддзе склалі толькі 99,2 % ўзроўню 2009 года.

Такім чынам, відавочна, што эканамічных падстаў для такога рэзкага павышэння даходаў і павелічэння зарплаты няма. Многія суайчыннікі разумеюць, што няма чаму радавацца ў гэтай сітуацыі. Такія крокі неўзабаве яшчэ больш пагоршаць канкурэнтаздольнасць вытворцаў з Беларусі на знешніх рынках. Павышэнне зарплат, папярэджваюць спецыялісты, прывядзе да павелічэння ўнутранага попыту і акажа дадатковы ціск на спажывецкія цэны. Гандлёвы баланс краіны стане яшчэ больш дэфіцытным. Жыць беларусам лепей не стане, бо надыходзіць час вяртаць раней пазычаныя крэдыты Расіі і МВФ.

Да вясны будучага года канчаткова высветліцца, чым для краіны завершыцца гэты неабгрунтаваны рост заработнай платы, бо і адносіны з асноўным гандлёвым партнёрам – Расіяй наўрад ці палепшацца, калі мы ўявлі цяпер яшчэ фактычна забарону на экспарт суседзям беларускай грэчневай крупы, маўляў, "нам і самім яе мала". Перамовы з "Газпрамам" аб цане газу на 2011 год будуць вельмі складанымі.

Пакуль жа зазначым, што павышэнне жыццёвага ўзроўню беларусаў адбываецца на фоне росту зарплат да канца года на 35 % у той час, калі прадукцыйнасць працы вырасла дагэтуль на 6,5 % да ўзроўню мінулага года. Такіх дыспрапорцый свет яшчэ не бачыў. Але што упраўленцам да чарговых выкрунтасаў, калі рашаюцца значна больш галоўныя палітычныя інтрыгі?

# Фэст у Параф'янаве



■ **ксёндз Віктар Місевіч**

12 верасня ў Параф'янаве (Докшыцкі дэканат Віцебскай дыяцэзіі) прайшоў фэст у гонар Найсвяцейшага Імя Маці Божай. Вернікі з усёй парафіі з'ехаліся, каб прыняць удзел ва ўрачыстасці. Былі таксама госці з іншых дыяцэзій, якіх шчыра прывітаў пробашч кс. Марат Казлоўскі.

На свяце присутнічалі святары з Докшыцкага і Браслаўскага дэканатаў. Кс. Юрый Жаўняровіч з Дрысвятаў цэлебраваў Найсвяцейшую Ахвяру і прамовіў гамілію. Ён звярнуў увагу слухачоў на тое, што ў Марыі чалавек можа найлепш разгледзець вобраз Божы. Кс. Юрый заахвоціў вернікаў весці сціплае і пакорнае жыццё на прыклад Маці Божай.

Шмат людзей прыступіла да Сакрамэнту споведзі і прыняло Хлеб Нябесны – Святую Камунію. Адбылася традыцыйная Эўхарыстычная працэсія, упрыгожаннем якой былі дзеткі і моладзь.

Калі яны сваім сэрцам прымаюць Езуса – значыць, Касцёл у Беларусі жыве.

*Фота: Кс. Віктар Місевіч, Ючкавіч Аксана*



# "Шукаю твар Твой, Пане мой..."

## Адарацыя моладзі каля Плашчаніцы



**9 верасня 2010 г. у парафіі Святога Андрэя Баболі ў Полацку адбылася малітоўная сустрэча моладзі. Пранікнуцца адпаведным настроем дзеля глыбейшага пазнання Хрыста дапамагала копія Турынскай Плашчаніцы, выстаўленая ў святыні. Гэтая рэліквія пілігрымуе па парафіях Віцебскай дыяцэзіі.**

■ **С. Святлана Грэйць**

Разважанне Бэнэдыкта XVI пра Плашчаніцу, якім пачалася адарацыя, дапамагло глыбей зразумець тое, што сімвалізуе рэліквія: «Плашчаніца — знак перамогі жыцця над смерцю. Яе можна назваць абразом таямніцы, абразом Вялікай суботы. Сапраўды, яна з'яўляецца пахавальным палатном, у якое агарнулі цела ўкрыжаванага чалавека ў поўнай адпаведнасці з евангельскім аповедам пра Езуса. Турынская Плашчаніца сведчыць пра раны Хрыста, пра той кароткі, але шматзначны адрэзак часу, падчас якога Езус знаходзіўся пад уладай смерці».

Святы Айцец параўнаў Вялікую суботу, дзень «маўчання» і «адзіноты», з сэрцам сучаснага чалавека. Наша эпоха ператварылася ў Вялікую суботу, цемра якой прымушае ўсіх нас задумацца над сэнсам жыцця. Аднак смерць Сына Божага, Езуса з Назарэта, мае процілеглае значэнне, цалкам пазітыўнае, яна — крыніца суцяшэння і надзеі.

Малітву ўзбагачалі прыгожыя спевы і музыка, а цішыня дапамагала разважаць над пачутым Божым словам пра аблічча Хрыста, пра Яго ўваскрасенне.

У разважаннях Святога Айца Турынская Плашчаніца прадстаўлена як знак перамогі, а значыць — пачатак новага жыцця. Калі ж глядзіш на адбітак твару Езуса на гэтым палатне, разумееш, што чалавек таксама можа пакінуць добры след у сэрцах іншых людзей і паказаць ім прыклад жыцця ў веры, надзеі і любові.

*Фота: Аляксандра Шабунова*





■ Антон Фурс,
г. Паставы.
Пераклад з польскай мовы.

# Я наведаў горад Дзісну

**Заканчэнне.**
*Пачатак у № 36 (544) 9 верасня 2010 года.*

***

■ Анатоль Якаўлеў

Дзісна з вышыні птушынага палёту.



У Дзісне на той час працавала шмат сталяроў, кавалёў. Каля 500 фурманак дастаўлялі тавар ў Варшаву, прычым хутка і ўччіва, ніхто нікога не стараўся ашукаць. 36 сем'яў жыло з рыбалоўства. Рыба каштавала дарагавата, а харчовыя тавары – танна: 1 фунт масла (400 грам) каштаваў 0.5 злотых, 1 літр малака – 10 грошаў, хлеб 1 бохан – 15 грошаў, карова – 50 злотых. Заробкі былі розныя, але ў Дзісне можна было знайсці працу і заробак. Найбольш зарабляў бурмістр – 500 злотых у месяц. Досыць добра зараблялі сплаўшчыкі лесу. Удвух, сплаўляючы лес у Рыгу, на працягу 4 дзён маглі зарабіць 110 злотых. А вось плытагоны з СССР ніколі сваімі заробкамі не хваліліся. Наогул, пазбягалі якіх-небудзь стасункаў з дзісенцамі, калі плылі да Рыгі міма Дзісны.

Аднойчы з вёскі Празарокі прыехаў багаты яўрэй і заказаў буфет, а лепшых майстроў, як брат Яўген, у горадзе не было. Зроблены буфет так спадабаўся пакупніку, што той заплаціў за яго суму, за якую цэлая сям'я магла жыць год.

Беручы да ўвагі той факт, што большасць будынкаў Дзісны былі драўляныя, гаспадары горада надавалі вялікае значэнне супрацьпажарнай бяспецы. Пажарная ахова, апроч прафесійных пажарных, мела каля 500 падрыхтаваных на выпадак пажару добраахвотнікаў. У 1931 годзе з прычыны 50-годдзя пажарнай аховы Дзісны ў горад на ўрачыстасць прыехаў ваявода Віленскі, які ўручыў пажарнікам юбілейныя медалі. Пан Яўген таксама атрымаў такі медаль. Урачыстасць адбывалася ў цэнтры на пляцы. Адбыліся спаборніцтвы па тушэнні хаты, спецыяльна пастаўленай для гэтай мэты. Пасля гэтага была фундацыя для 500 асоб, на якой прысутнічаў і пан ваявода. Хаця Дзісна была далёка ад Варшавы, аднак мела тэлефонную сувязь, а з чыгуначнага вакзала цягнікі курсіравалі да сталіцы. За суткі туды можна было даехаць, праўда, білеты на цягнік каштавалі дорага, асабліва пакуль не былі выплачаныя акцыі. У Вільні пан Яўген першы раз быў на прамысловай выставе і набыў там сабе добры касцюм за 110 злотых. Архітэктура горада і яго помнікі, багатыя крамы і сёння паўстаюць у памяці. І хоць білеты на выставу былі дарагімі, усё, што ўбачыў Яўген, надзвычай уражвала, асабліваа сучасная тэхніка. У Варшаве быў 2 разы, але гэта было з прычыны хваробы брата, які быў накіраваны на спецыяльнае лячэнне. Падарожжа ў сталіцу і лячэнне каштавалі дорага, таму сям'я звярнулася за дапамогай да бурмістра. Частку грошай пазычыў ён, частку далі яўрэі. Гэта быў першы выпадак, калі яўрэі давалі крэдыт хрысціяніну. З Вільні да Варшавы ў вагоне мы ехалі толькі ўдваіх. Пры першым падарожжы білет на 1 асобу каштаваў 110 злотых, а калі другі раз адведваў брата, кошт білета стаў напалову таннейшы. Нягледзячы на тое, што выдаткі на лячэнне былі высокія, вярнуць пазыку ўдалося хутка. Перад яўрэйскімі святамі ўся сям'я занялася лоўляй рыбы і пакрыла ўсе затраты на лячэнне.

Дзісна таксама мела свой шпіталь, добра на той час абсталяваны. Адзін візіт да лекара каштаваў 10 злотых. Гонарам горада былі сады і агароды. Тут вырошчвалі 85 гатункаў гародніны і садавіны. Сёння з таго мала што засталося. Як успамінаў пан Яўген, у 1918 годзе немцы залажылі першую ўзорную гаспадарку, каб паказаць, як трэба працаваць тутэйшым сялянам і панам.

Культурнае жыццё Дзісны ў даўнейшыя часы было цікавейшым, чым зараз. Пажарная ахова і гімназія мелі духавыя аркестры. Яўрэй Борман утрымліваў сімфанічны аркестр, існавалі 2 аматарскія тэатры , польскі і яўрэйскі, якія месціліся ў яўрэйскім клубе. Каталікі і праваслаўныя мелі свае грамадскія і рэлігійныя арганізацыі. Акрамя гэтага, была арганізацыя стрэльцаў і розныя спартыўныя дружыны. Нацыянальныя адносіны былі нармальныя: на святы каталіцкія праваслаўныя віншавалі каталікоў, а тыя ўзаемна на іхнія святы. Перад кожным домам раслі кветкі, стаялі лаўкі – усюды былі чысціня і парадак. Вечарамі маладыя людзі збіраліся і весела праводзілі час: гралі на гітары, гармоніках, мандалінах. У паньства Фурсаў быў грамафон, і да іх ахвотна прыходзілі суседзі і знаёмыя, ставілі кружэлкі і танчылі. Горад меў добрую бібліятэку, якую наведвала шмат людзей. Гараджане вельмі дбалі пра свой знешні выгляд – брудных і неахайна прыбраных не было. Самыя танныя штаны каштавалі 5 злотых, лепшыя – даражэй. Кірмаш адбываўся кожную сераду і пятніцу на тым пляцы, дзе зараз помнік Леніну. У гэтыя дні ўся Дзісна была запоўнена фурманкамі. Асобны базар быў для жывёлы і коней. Пры паляках у Дзісне было 5 аптэк, сёння –1. Яўрэйская і хрысціянская супольнасці мелі свае лазні. У нядзелю і іншыя святы ўсе вучні гімназіі і школ разам са сваімі выхавацелямі наведвалі царкву або касцёл. Бязбожніцтва прыйшло пазней з усходу. Існавала таксама яўрэйская камуністычная арганізацыя, большасць членаў якой былі багатыя людзі. Дзесьці ў другой палове 30-х гадоў адбыўся над імі суд, але пакарання не было. Калі прыйшлі саветы і сталі ўсталёўваць свае парадкі, то тыя ўцяклі да Беластоку. Некаторыя маладыя людзі былі сагітаваныя членамі КПЗБ, каб уцячы ў СССР. Такія выпадкі былі, але ніхто з іх потым не падаў знакаў (іх жыццёвы след згінаў). У 1939 годзе пан Яўген аддаў сваю майстэрню ўладам, бо ведаў, чым гэта можа скончыцца, а сам пайшоў працаваць кіраўніком базару.

Па-рознаму склаўся лёс сям'і Фурсаў. Трагічна закончылася жыццё сястры Фацімы, якая ў час грамадзянскай вайны была загадчыцай сіроцкага дому. З 1917 года гэта ўстанова не фінансавалася, і каб неяк выжыць, прадавалі некаторыя рэчы, а таксама атрымлівалі ахвяраванні ад заможных людзей. З прыходам польскага войска гэты дом быў перададзены ў Віцебск разам з персаналам.

У Віцебску сястра стварыла сям'ю, мела ўласную кватэру, потым у яе нарадзілася дачка. Не падазраючы нічога дрэннага, прывяла на кватэру, як аказалася пазней, афіцэра НКВД. Дзякуючы гэтаму чалавеку, яе хутка арыштавалі і пасля 5 год турмы яна памерла. Афіцэр той пасля вайны зноў прыехаў у Віцебск ужо ў чыне палкоўніка, пабудаваў багаты дом – палац на крыві.

Кірмаш у Дзісне. 1916 год.



# Неверагодна! Сярод восені расквітнела чаромха



■ Ул. Скрабатун

Тое, што ў ліпені ці ў пачатку жніўня могуць з'явіцца кветкі на вішнях ці яблынях – з'ява цікавая, але не настолькі рэдкая. Сам бачыў і не аднойчы, пішуць пра тое ў газетах, паказваюць па тэлебачанні. І гэты год не выключэнне. Назіралі сёлета такое ў Мёрах і Віцебску.

А тут чаромха! Сведкамі гэтага сталіся чатыры чалавекі, якія так ці інакш маюць дачыненне да «Вольнага Глыбокага». Проста сабраліся разам і паехалі па грыбы ў раён вёскі Жданы на Пастаўшчыне. Непадалёк ад Жданоў– мясцовасць, якую называюць Вярхоўе. Тут ёсць святая крыніца, якая лечыць вочы. Вялікі дуб на пагорку і два крыжы: каталіцкі і праваслаўны. А побач – вадасховішча, якое стварылі бабры. Над вадасховішчам – зараснікі чаромхі. Адзін куст і заквітнеў. А пах які!!!

■ Алесь Гай

# Каму патрэбная такая дапамога?

**Дапамогу калгасам аўтар гэтых радкоў аказваў два гады: браў актыўны ўдзел у падборцы камянёў, не абмінуў і акцыі "Чыстыя палі", калі ў спякотнае лета высякалі хмызнякі. Цяпер ляжыць той хмызняк і гніе, нікому не патрэбны. Павысякалі мы хмызняк уздоўж дарог, але на асобных участках ён вырас ізноў не меншы за паўтара метра.**

Я асабіста – за дапамогу калгасам, бо ядзім мы і мяса, і хлеб, і булку з маслам. Натуральна, павінны і дапамагаць ў падборцы камянёў, ва ўборцы буракоў, бульбы і лёну. Але ад гэтай дапамогі мусіць быць нейкая выгода і калгасам, і памочнікам.

З Глыбоцкага райвыканкама ідуць дырэктывы ўстановам і арганізацыям па выкананні заданняў па ўборцы лёну. Падпісаныя яны першым намеснікам старшыні В.М. Пяткевічам. Мне асабіста прыйшлося пяць разоў выконваць заданне па ўборцы лёну. Вось я і хачу на старонках газеты распавесці, як выконваецца і арганізоўваецца гэтая шэфская дапамога.

7 верасня ў раён Стрынадак на дапамогу Плiскаму льнозаводу было накiравана прыкладна 250 чалавек. Мы прыбылі на месца ўборкі ў 8:30. Нейкая спадарыня на капоце легкавога аўтамабіля вяла ўлік прыбыўшых– перапісвала ўсіх. Можа, такі парадак? Кожны, хто падыходзіў, называў сваю ўстанову, сваё прозвішча і ініцыялы. І колькі часу заняла гэтая працэдура? Здагадайцеся! Перапіс заняў 1 гадзіну 20 хвілін. Частка людзей разышлася па полі, бо не ведалі, чым заняцца, другая частка пайшла ў бліжэйшы сад па яблыкі. Некаторыя гумарысты апавядалі анекдоты.

Гляджу на гадзіннік. 11 гадзін! І толькі ў гэты час атрымалі заданне падымаць лён і ставіць у снапкі. Тыя, хто ездзіць не першы год, самі праявілі ініцыятыву і пачалі працаваць крыху раней. Большасць была ўжо ў добрым настроі – да абеда заставалася 1 гадзіна. Асабліва радаваліся маладзёны. Гледзячы на іх, можна было зразумець – ім усё да лямпачкі, хутчэй бы абед! А пасля яго і дахаты ўжо хутка.

Шмат хто прыехаў упершыню. Як падбіраць, як вязаць у снапкі лён – не ведаюць. Дзе два чалавекі сталі на рад, дзе пяць. А радочкі метраў так – 700.

Пытанне да нашага райвыканкама і да Плiскага льнозавода: "Скажыце, калі ласка, навошта траціць 1 гадзіну 20 хвілін на перапіс?" На маю думку, кожная арганізацыя ці ўстанова ў стане скласці спіс памочнікаў і прывесці яго з сабой. Вось я і звяртаю ўвагу паважанага Віналія Мяфодзьевіча Пяткевіча на гэтую акалічнасць – людзі пачалі працаваць толькі а 11-ай гадзіне. І яны ў гэтым не вінаватыя, бо ніхто не атрымаў задання і не ведаў, што рабіць. Замест таго, каб працаваць, памочнікі 1 гадзіну 20 хвілінаў глядзелі на перапісчыцу. Напэўна, патрэбна было з прыбыўшых сфармаваць групы па 30-50 чалавек і прызначыць старэйшага з тых, хто ўжо мае вопыт і мог бы навічкам растлумачыць заданне.



Далей. Другі дзень. 8 верасня прыбыла ў Стрынадкі зноў група людзей прыкладна чалавек 250. Тая самая карціна, якая была апісана вышэй. Неяк атрымалі заданне рассцяліць снапкі лёну на полі для зборкі ў рулоны. З горам напалам зрабілі гэтую работу. А пасля абеду паўтары гадзіны гэтыя 250 чалавек не ведалі, што рабіць. Затым неяк знайшлі гэтую спадарыню перапісчыцу (шкада, што не ведаю яе пасады), якая сказала, што за бугром засталося яшчэ 120 радкоў ільну падняць у снапкі. Шмат хто ўжо і не выходзіў з машын і аўтобусаў, іншыя хто куды пахаваўся. Добрасумленныя людзі паднялі і гэтыя 120 радкоў ільну.

Падобная практыка паўтараецца з году ў год. Падумалася, што і лён і нашая дапамога льнозаводам непатрэбная, калі так арганізоўваецца шэфская дапамога.

Аўтару гэтых радкоў 10-11 верасня прыйшлося быць ужо ў Бортніках. Тое самае! Перапісваюць. Не ведаем, што будзем рабіць і як рабіць, ці ёсць тут нехта старэйшы.

Зразумела, лён – нашае багацце. Аднак не ўмеем мы карыстацца гэтым багаццем. Калі паглядзіш на ўсё гэта – вельмі балюча становіцца на душы: зарослыя травой радкі лёну, а месцамі ён ляжыць згніўшым. Гніе ён у снапках і рулонах, і у скірдах у Стрынадках, дзе мы яго збіралі. Размаўляю на полі з прадстаўніком Плiскага льнозавода… Лён не вывозяць, пакуль няма дажджу: аказваецца, няма чым, не хапае тэхнікі.

Напэўна, засталася ў нас яшчэ хвароба з савецкіх часоў: рапартуем, колькі засеяна, колькі ўбрана. Насамрэч жа ўсё выглядае інакш. І навошта столькі сеяць, калі не можам давесці да парадку. Навошта столькі людзей пасылаць, адрываць ад працы, калі не можам па-людску арганізаваць работу.

Перад тым, як пісаць гэты матэрыял, аўтар падзяліўся сваімі думкамі з удзельнікамі шэфскай дапамогі,ці патрэбна пра ўсё гэта напісаць у газету. Чалавек 50 мяне падтрымала.

# Беларусаў стала больш, але яны русіфікуюцца

■ Юльян Місюкевіч, nn.by

**Сталі вядомыя вынікі апошняга перапісу. Доля беларусаў вырасла да 84%, але толькі 23% жыхароў краіны размаўляе ў хаце па-беларуску.**

На прэс-канферэнцыі 8 верасня былі прадстаўлены асноўныя дэмаграфічныя і сацыяльныя характарыстыкі насельніцтва Рэспублікі Беларусь па выніках перапісу насельніцтва 2009 года.

«Перапіс — буйнамаштабны ўнікальны статыстычны рэсурс, дае важныя дадзеныя для даследаванняў»,— лічыць Алена Кухарэвіч, намеснік старшыні Нацыянальнага статыстычнага камітэта.

Па стане на 14 кастрычніка 2009 года ў Беларусі жылі прадстаўнікі 140 нацыянальнасцей і народнасцей.

Доля беларусаў у параўнанні з мінулым перапісам 1999 года павялічылася і складае 84%. 10 гадоў таму быў 81%, а двайцаць таму, на хвалі саветызацыі — толькі 77.

Да нацыі літвінаў сябе аднеслі 66 жыхароў Беларусі, тры з якіх жывуць у сельскай мясцовасці.

Гэта, дарэчы, больш за колькасць японцаў, якіх у нашай краіне пражывае 23 чалавекі. Адзін чалавек назваў сябе сібірскім туркам.

З нацыянальных меншасцяў па краіне чацвёрку першых займаюць расейцы (8,3%), палякі (3,1%), украінцы (1,7%) ды яўрэі (0,1%). Але такі расклад залежыць ад вобласці. У Мінскай і Брэсцкай абласцях, напрыклад, адсотак армянаў большы за адносную колькасць яўрэяў, у Гарадзенскай вобласці шмат людзей называлі сябе палякамі. У параўнанні з 1999 годам у 20 разоў павялічылася колькасць кітайцаў, але іхні агульны ўклад у статыстычную карціну застаецца нязначным.

Заўважная тэндэнцыя — імклівая асіміляцыя расейцаў і палякаў. Расейцаў 20 гадоў таму было 13%, а цяпер засталося амаль удвая менш.

Падчас перапісу толькі 53% рэспандэнтаў назвалі роднай мовай беларускую і толькі 23% — хатняй. У 1999 годзе беларускую мову лічылі роднай 73,6% жыхароў краіны, а ў сем'ях ёй штодзённа карысталася 37%.

Сярод беларусаў па нацыянальнасці 60% назвалі роднай моваю беларускую, дома ёю карыстаюцца 30%. Памяншэнне гэтага адсотку Алена Кухарэвіч звязвае з самавызначэннем рэспандэнтаў.

У якасці іншай мовы, якой валодаюць, беларускую назвалі 13.5% апытаных, на палову працэнта больш займела руская мова. 450 тысяч жыхароў Беларусі свабодна валодаюць ангельскай моваю, што ў 3,2 раза больш у параўнанні з мінулым перапісам.

У цяперашні момант у Беларусі пражывае 9 млн 504 тысячы чалавек.

Шчыльнасць беларускага насельніцтва складае 46 чалавек на 1 кв. км. Для параўнання: шчыльнасць жыхароў ва Украіне — 76, Літве — 52, Латвіі — 30, Польшчы —122.

З моманту апошняга перапісу ў 1999-м годзе колькасць жыхароў у Беларусі зменшылася на 541 тысячу (5,4%). Змяншэнне насельніцтва назіраецца ва ўсіх абласцях, найбольш істотнае ў Віцебскай вобласці. Разам з тым, колькасць жыхароў у Мінску павялічылася на 157 тысяч і складае 1,837 млн.

Беларусь застаецца адной з самых урбанізаваных краін Еўропы: 7 мільёнаў беларусаў жывуць у гарадах, 26% нашага насельніцтва складаюць сяльчане.

На 560 тысяч зменшылася колькасць дзяцей да 15 гадоў, гэта звязваюць з падзеннем нараджальнасці ў 90-ых гадах.

Нацыянальны статыстычны камітэт адзначае павелічэнне хуткасці ўрбанізацыі ў параўнанні з мінулымі перапісамі.

Памяншэнне насельніцтва краіны звязваюць у першую чаргу з натуральным памяншэннем ды міграцыйным патокам. На сённяшні момант нараджальнасць хоць і не перавышае смяротнасць, але павялічваецца, у той час як смяротнасць паволі змяншаецца.

За апошнія 10 гадоў колькасць працаздольных жыхароў павялічылася, яна цяпер складае 5,8 млн. Старэнне насельніцтва характэрнае цяпер для ўсіх еўрапейскіх краін. Зазвычай кажуць пра старэнне нацыі, калі адсотак людзей ва ўзросце звыш 65 гадоў дасягае 7%. У Беларусі жыхары, якія маюць 65 гадоў і больш, складаюць 1350 млн, — лічбы прыблізна супадаюць з перапісам 1999 года. На сённяшні момант гэта 14% ад агульнага насельніцтва рэспублікі.

У параўнанні з перапісам 1999 года павялічыўся сярэдні ўзрост з 37 гадоў да 39,5.

Дэмаграфічная нагрузка цяпер найніжэйшая за ўсю пасляваенную гісторыю,– адзначаюць у статыстычным камітэце. Аднак зменшылася колькасць асобаў ніжэй працаздольнага ўзросту, закошт якіх старэйшае пакаленне магло папаўняцца.

За апошнія дзесяць гадоў узрасла колькасць разводаў.

На цяперашні момант на 1000 мужчынаў прыпадае 1150 жанчынаў. Статыстычны камітэт адзначае таксама недахоп нявестаў на сяле.

У жыхароў Беларусі павялічыўся узровень адукацыі,90%насельніцтва старэй за 15 гадоў маюць вышэйшую, сярэднюю альбо базавую адукацыю. Непісьменных у Беларусі налічваецца 30 тысяч, большасць з якіх складаюць інваліды ды людзі з псіхічнымі адхіленнямі.

Асноўнай крыніцай даходу 45% жыхароў Беларусі назвалі працу. 23% знаходзяцца на бацькоўскім утрыманні, 90% з іх– моладзь да 25 гадоў.

Апошні перапіс насельніцтва адбываўся ў Беларусі з 14 па 24 кастрычніка 2009 года. Падчас перапісу не задаваліся толькі пытанні рэлігійныя і наконт веравызнання рэспандэнта.

Вынікі перапісу падлічваюцца з дапамогаю камп'ютарных сістэм і фармуюцца паэтапна. Апошнія статыстычныя дадзеныя будуць выдадзены 3 мая 2011 года.

НАЦЯЖНЫЯ ПАТАЛКІ
Гарантыя 10 год!
Тэкстура плёнкі:
□ матавая (Расія, Украіна, Францыя)
□ лакавая (Расія, Францыя);
□ лакавая "premium", "veiron" сацінавы (Францыя);
□ "Аблокі" (Расія)
□ паўпразрыстая,
□ металік, □ кварц,
□ гольф, □ кліпсо (Швейцарыя),
□ фотадрук
Замер і кансультацыя – бясплатна!
ІП Сівіцкі К.В., УНП 300535045; пасв. № 1924, выд. 22.12.2004 г. Глыбоцкім РВК
Тэл.: 044 484-93-89; 562-43-44

## Ó Ñòîë³íñê³ì ðà¸íå àä àòðó÷ýííÿ ýòûëàâûì ñï³ðòàì ïàìåðëà òðîõìåñÿ÷íàå äç³öÿ

■ **Ларыса Шыганава**, *БелаПАН*

**У Столінскім раёне ад атручэння этылавым спіртам памерла трохмесячная дзіця.**

Як паведаміў БелаПАН старшы следчы пракуратуры Брэсцкай вобласці Аляксандр Дзенісовіч, 29 жніўня а дзявятай гадзіне вечара 18-гадовая маці, жыхарка аднаго з сельскіх населеных пунктаў раёна, у доме па месцы жыхарства дабавіла ў малочную сумесь для кармлення сваёй трохмесячнай дачкі прыкладна 10 грамаў гарэлкі і дала гэты напой дзіцяці.

Пасля таго як жанчына ўбачыла, што дзяўчынка не дыхае, яна выклікала медыкаў.

Судова-медыцынскай экспертызай устаноўлена, што смерць дзіцяці наступіла ад атручэння этылавым спіртам.

У дачыненні да жанчыны 8 верасня распачата справа па ч. 1 арт. 144 Крымінальнага кодэкса (прычыненне смерці па неасцярожнасці).

Паводле слоў маці, яна думала, што ў яе дзяўчынкі глісты, і хацела палячыць дзіця такім народным спосабам, пра які недзе чула. Жанчына замужам. Гэта другое яе дзіця. Старэйшаму — тры гады.

## Ñåíñàöûéíàå àäêðûöö¸ ïðà âåðó ¢ Áîãà

**Навукоўцы зрабілі нечаканае адкрыццё пра чалавечую веру ў Бога. Аказваецца, вера ў звышнатуральнае нараджаецца ў чалавеку разам з ім.**

Навукоўцы з Брыстальскага ўніверсітэта даказалі, што чалавек нараджаецца з верай у Бога. "Мысленне дзіцяці ўключае інтуітыўную веру ў звышнатуральнае", - растлумачылі даследчыкі.

На працягу шматлікіх стагоддзяў навукоўцы спрачаюцца пра існаванне Бога, але дагэтуль адназначнага адказу на гэта пытанне не было дадзена. Аднак даследчыкі сцвярджаюць, што без веры ў Бога чалавек і сучаснае грамадства маглі б проста не з'явіцца на свет.

Так, людзі, якія верылі ў вышэйшыя сілы, на этапе станаўлення і развіцця чалавецтва, стварылі мацнейшыя сацыяльныя сувязі і павялічвалі сваю жыццяздольнасць.

Навукоўцы лічаць, што вера абараняе чалавека ад шматлікіх хвароб. Напрыклад, веруючы чалавек радзей перажывае стрэс і дэпрэсіі. Падчас эксперыментаў было даказана, што рэлігія дапамагае лягчэй перажываць фізічны боль: веруючы чалавек на 12% больш да яго цярплівы .

## Æûõàð Áàðàíàâ³÷à¢ ïàäàçðàåööà ¢ çàáîéñòâå ïÿö³ìåñÿ÷íàé äçÿ¢÷ûíê³

■ **Ларыса Шыганава**, *БелаПАН*

**Як паведамілі БелаПАН у следчым аддзеле пракуратуры Брэсцкай вобласці, 8 верасня а трэцяй гадзіне ночы цела дзіцяці з цялеснымі пашкоджаннямі ў вобласці галавы ітулава прынёс на станцыю хуткай медыцынскай дапамогі ў Баранавічах 31-гадовынепрацуючы мясцовы жыхар. Ён заявіў, што знайшоў дзіця на вуліцы.**

У дзяўчынкі былі выяўленыя закрытая чэрапна-мазгавая траўма, шматлікія пераломы костак зводу і асновы чэрапа, пераломы пяці рэбраў, сінякі і кровазліцці ў мяккія тканкі шыі з прыкметамі механічнай асфіксіі.

8 верасня па факце смерці дзіцяці следчым аддзелам пракуратуры Брэсцкай вобласці распачата справа па п. 2 ч. 2 арт. 139 Крымінальнага кодэкса (забойства завядама малалетняга).

Па падазрэнні ў забойстве затрыманы мужчына, які прынёс дзяўчынку на станцыю хуткай медыцынскай дапамогі.

Падчас папярэдняга расследавання крымінальнай справы ўстаноўлена, што 7 верасня ён распіваў спіртное з бацькам дзіцяці ў кватэры апошняга. Там жа знаходзілася бабуля загінуўшай дзяўчынкі. Маці дзіцяці дома не было.

Прычыну смерці дзяўчынкі вызначае судова-медыцынская экспертыза. Следствам устанаўліваюцца акалічнасці прычынення дзіцяці цялесных пашкоджанняў, якіяпрывялі да смерці.

Падазроны змешчаны ў ізалятар.

## Ïðà¢äà ¢ â³íå




■ **АіФ**

**Усё кажуць, што ў разумных дозах алкаголь нават карысны. А разумная доза - гэта колькі? І ў чым карысць віна, гарэлкі, піва?**

**- Чырвонае сухое віно** (мы кажам пра якасны алкаголь) - добры антыаксідант. Віно запавольвае працэсы старэння, фармаванні халестэрынавых бляшак, чысціць сасуды, выводзіць свабодныя радыкалы. Але гэта не значыць, што мы павінны піць чырвонае віно бутэлькамі. Дапушчальны максімум - 150 г. Лепш за ўсё піць віно ў абедзенны час, але не запіваць ім ежу. Ідэальны варыянт: куфель напоя паміж першым і другім стравамі, а не на пусты страўнік. Белае віно ў адрозненне ад чырвонага проста прыемнае на густ, яно не валодае ярка выяўленымі карыснымі ўласцівасцямі.

Вытворцы **піва** пераконваюць спажыўцоў у тым, што гэты напой багаты вітамінамі, бо ў яго складзе дрожджы, што хмель нібы паляпшае перыстальтыку кішэчніка, спрыяе лепшаму страваванню і кровазвароту, змяншае рызыку сардэчных захворванняў. Але гэта чыстай вады рэклама. Затое раю карыстацца ім як вонкавым сродкам. Ім можна лячыць валасы (апалосквацъ, рабіць маскі, у склад якіх уваходзіць піва), чысціць скуру і выводзіць шлакі з арганізма. Нягледзячы на тое, што каларыйнасць піва невысокая (усяго 36 ккал на 100 г), яно вельмі хутка ўсмоктваецца слізістай страўніка, пранікае ў печань і пачынае тармазіць працэсы страваванння. У выніку ежа горш засвойваецца, адгэтуль і піўныя жывоцікі. Каб пазбегнуць гэтых наступстваў, лепш півам не захапляцца, разумная доза - 200 г напою, не больш.

**Гарэлка** - выдатны транспарцёр карысных рэчываў, якія змяшчаюцца ў лекавых раслінах. З яе дапамогай яны хутчэй паступаюць у кроў і лепш засвойваюцца. Нездарма асноўны кампанент усіх лекавых настояў - спірт. Тое ж самае можна сказаць і пра касметычную прамысловасць. Прэпараты на спірце, з аднаго боку, падсушваюць скуру, з іншага - дапамагаюць лекаваму рэчыву трапіць глыбей у поры. Часам гарэлку выкарыстоўваюць у якасці нармалізатара тэмпературы. Але пры гэтым яе не трэба піць: досыць зрабіць спіртавыя прымочкі ці абціранні.

Гарэлка валодае сасудапашыраючым дзеяннем. Але гіпертонікі, якія спрабуюць лячыць хваробу гарэлкай, не маюць рацыі. У арганізма пасля чаркі гарэлкі ўключыцца ахоўны механізм: сасуды, якія хутка пашырыліся, пачнуць звужацца. Шматлікія людзі лічаць, што ўзімку гарэлка дапамагае сагрэцца. Гэта абсалютна няправільнае меркаванне. Адгэтуль вялікая колькасць змерзлых падвыпіўшых людзей на вуліцах і вялікая колькасць смяротных выпадкаў ад пераахаладжэння на фоне алкаголю. А вось для націрання гарэлка добрая. Калі, напрыклад, гарэлкавы кампрэс накласці на гнойны нарыў у паходных умовах, ён справіцца з запаленнем. Так што калі ў вас пад рукой няма мазі Вішнеўскага, можаце смела выкарыстоўваць гарэлку. Намачыце марлю ў напоі, пакладзіце на ноч на гнайнік і перавяжыце. Гарэлка, якую п"юць, карысці не прыносіць. Калі мы кажам пра здаровае сілкаванне, то мы наогул не маем на ўвазе гарэлкі. А калі людзей цікавіць, колькі трэба выпіць, каб не напіцца, то доза вызначаецца практычна, бо ў кожнага чалавека арганізм выпрацоўвае розную колькасць фермента, здольнага за кароткі прамежак часу разбурыць гэты алкаголь.

## Áåëàðóñêàÿ ì³ë³öûÿ çàòðûìàëà íàéáóéíåéøóþ ¢ ã³ñòîðû³ êðà³íû ïàðòûþ ãåðà³íó

**Як паведамілі ў аддзеле інфармацыі Галоўнага следчага ўпраўлення папярэдняга расследавання Міністэрства ўнутраных спраў, паводле матэрыялаў упраўлення па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі, 8 верасня была распачата крымінальная справа ў дачыненні да 39-гадовага жыхара Магілёва.**

■ **БелаПАН**

Яму інкрымінуюць учыненне злачынства, прадугледжанага часткай 4 артыкула 328 КК (незаконны абарот наркатычных сродкаў у буйных памерах у складзе арганізаванай групы). Пра гэта паведаміў 9 верасня журналістам у Мінску начальнік упраўлення па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі МУС Аляксандр Гаўрылаў.

Паводле яго слоў, зламыснік быў затрыманы аператыўнымі супрацоўнікамі ў пункце збору дарожных пошлін "Рэдзькі", размешчаным на аўтадарозе Брэст- Мінск- мяжа Расійскай Федэрацыі. У аўтамабілі "Опель-Астра" з расійскім рэгістрацыйным знакам наркакур'ер перавозіў прыкладна 28 кг гераіну--самую буйную партыю наркотыкаў, якая калі-небудзь канфіскоўвалася на тэрыторыі Беларусі.

Пры правядзенні агляду аўтамабіля ў бакавых панэлях задняга пасажырскага сядзення міліцыянеры знайшлі 187 упаковак акруглай формы, замаскіраваных пад цыбулю. У іх знаходзілася герметычна спрасаваная маса шэрага колеру. Паводле заключэння Дзяржаўнага экспертна-крыміналістычнага цэнтра МУС, канфіскаванае-рэчыва -- гераін.

Паводле слоў Гаўрылава, затрыманы гераін--"тавар добрай якасці, ацэначны кошт якога складае прыблізна 1 млн. долараў".

Гэты наркатрафік упраўленне па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі МУС распрацоўвала больш за паўгода. Затрыманы ўваходзіў у склад транснацыянальнай арганізаванай злачыннай групы, якая займалася пастаўкамі гераіну з Сярэдняй Азіі. Канфіскаваны наркотык прызначаўся для наступнага транзіту ва Украіну і краіны Еўрасаюза, а таксама для распаўсюджання на тэрыторыі Беларусі. Гаўрылаў паведаміў, што гэта не апошняе затрыманне ў межах расследавання дзеяннаў гэтай злачыннай групы.

Усяго ж у гэтым годзе органамі ўнутраных спраў Беларусі перакрыта 36 міждзяржаўных каналаў пастаўкі і транзіту наркотыкаў. Падчас іх ліквідацыі агульная колькасць канфіскаваных наркатычных сродкаў склала звыш 117 кг, у тым ліку 37 кг гераіну. больш за сувязяў ГУУС Мінгарвыканкама, канфіскавана ўсяго прыкладна 150 дыскаў. Прызначана мастацтвазнаўчая экспертыза. У выпадку калі яна пацвердзіць высновы аператыўнікаў, у дачыненні да затрыманых будуць распачаты крымінальныя справы за выраб і распаўсюджанне прадукцыі парнаграфічнага зместу (арт. 343 КК).

Паводле дадзеных ГУУС, з пачатку года ўсталіцы было канфіскавана прыкладна 1.500 парнаграфічных дыскаў. У маі ліквідавана цэлая студыя, якая займалася тыражаваннем такой прадукцыі з выкарыстаннем камп'ютарнай і капіравальна-размнажальнай тэхнікі (яна выкарыстоўвалася для вырабу паліграфічнай упакоўкі). Больш за 15 чалавек прыцягнуты да крымінальнай адказнасці.

